*Кнігу прысвячаю сваім бацькам*

## Прадмова да другога беларускага выдання

Не памылюся, калі скажу, што для кожнага гісторыка асаблівае значэнне мае факт, ці знойдзе ягоная праца свайго чытача. Менавіта такую надзею я выказаў, калі пісаў прадмову да першага беларускага выдання сваёй кнігі, тым больш што менавіта для беларускага чытача яна пісалася. Кніга ў пэўным сэнсе з'яўляецца творам аўтабіяграфічным, бо праз прызму гісторыі сваіх бацькоў, дзядоў, суседзяў і ўвогуле жыхароў заходнебеларускіх земляў я паказаў сваё бачанне працэсу саветызацыі гэтага рэгіёна. Таму адмова ад сціслай акадэмічнасці і асаблівая прэзентацыя шматлікіх праблем, закранутых на старонках працы, маглі спрычыніцца да неадназначнага ўспрымання кнігі чытачом. Аднак мае асцярогі і сумненні былі, як аказалася, беспадстаўнымі.

Ужо пасля выхаду працы ў свет я пераканаўся яшчэ раз, як мала даследаванай з'яўляецца гэтая тэматыка і як цяжка займацца яе распрацоўкай у сучаснай Беларусі. Як аказалася, правесці ва ўмовах сённяшняй Беларусі навуковую ці грамадскую дыскусію па тэме даследавання вельмі праблематычна. Не зусім зразумелай з'яўляецца сітуацыя вакол арышту часткі накладу першага выдання кнігі. Сумна ўсведамляць, што метады і практыка ажыццяўлення ідэалагічнай і прапагандыскай дзейнасці, якія я апісваў на старонках працы, з'яўляюцца зусім не перагорнутай старонкай гісторыі, а складовай часткай сучаснай беларускай рэчаіснасці. Прыклад гарадзенскай гістарычнай супольнасці і лёсаў некаторых даследчыкаў, на жаль, ёсць сумным доказам падабенства пасляваенных умоваў з сучаснымі. У гэтым кантэксце, праўду кажучы, не вельмі цешыць тое, што кніга і сёння не страціла сваёй актуальнасці.

У той жа час мяне як аўтара цешыць факт, што кніга дачакалася другога выдання і што існуе зацікаўленасць чытацкай аўдыторыі да гэтай праблематыкі. Хачу падзякаваць выдаўцам кнігі і чытачам, а таксама выказаць перакананне, што мая праца павінна быць толькі пачаткам паглыбленых даследаванняў па праблемах гісторыі заходнебеларускіх зямель у пасляваенны перыяд, якія яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Бо кропку тут ставіць яшчэ ранавата…